www.nv-online.info

# Народная Воля

**№ 80 (3821)**

11 кастрычніка 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*




ГРОШЫ

## За год курс долара вырас амаль на 600 рублёў, еўра — на 1340

Учора курс долара пабіў чарговы рэкорд. А вось роўна год таму "зялёны" знізіўся адразу на 60 рублёў. 10 кастрычніка на Беларускай валютна-фондавай біржы **курс долара** вырас на 10 рублёў да **9160** рублёў.

**Курс еўра** знізіўся на 10 рублёў да **12.370** рублёў, а **курс расійскага рубля** вырас на 0,5 рубля да **283,0** беларускіх рублёў. У камерцыйных банках долар прадаюць па 9190—9310 рублёў, еўра — 12.440—12.520.

А вось роўна год таму, **10 кастрычніка 2012 г.**, адбылося рэзкае ўмацаванне беларускага рубля. Тады **курс долара** знізіўся на 60 рублёў да **8570** рублёў, **курс еўра** ў гэты дзень абрынуўся адразу на 140 рублёў да **11.030**, **курс расійскага рубля** знізіўся на 3 рублі да **274,5** беларускага рубля.

Такім чынам, за год долар падаражэў на 590 рублёў (на 6,9 працэнта), еўра — на 1340 рублёў (12,1 працэнта), расійскі рубель — на 9,3 рубля (3,1 працэнта). Як бачым, плаўная дэвальвацыя ў дзеянні.

**Аляксандр НІКАНОРАЎ.**

МОНИТОРИНГ

## Белорусы против строительства Островецкой АЭС, но их мнение власти не интересно

Об этом свидетельствуют новые данные Независимого института социально-экономических и политических исследований (Вильнюс).

Несмотря на уверения властей в безопасности строительства Белорусской АЭС, положительно к этому проекту, по данным социологов, относятся только 34 % опрошенных. При этом 37,6% респондентов к данному проекту относятся отрицательно.

На взгляд представителей НИСЭПИ, причина этого не в происках Запада или "негодяев свядомых", а в собственном опыте белорусов: свыше 76% считают, что их здоровье или здоровье близких ухудшилось после Чернобыльской катастрофы (не согласны с этим только 15%).

Большая часть граждан понимает, что их несогласие с политикой властей по тому или иному вопросу в расчет не принимается. Так, 47,5% опрошенных считают, что *"общественное мнение не влияет на принятие политических и социально-экономических решений в нашей стране"*.

## Свіная чума не згінула...

На першы погляд сітуацыя са свіной чумой крыху сцішылася, пра новыя ўспышкі не паведамляецца. Але то з аднаго рэгіёна, то з другога працягваюць прыходзіць трывожныя весткі.

У чацвер, калі вярстаўся нумар, стала вядома, што ва Ушацкім раёне на свінакомплексе "Арэхаўна" пачаўся масавы забой жывёл. У Сарачынскім сельсавеце, да якога належыць аграгарадок Арэхаўна, інфармацыю пацвердзілі. *"Комплекс зачыняецца і больш працаваць не будзе ў сувязі з афрыканскай чумой свіней"*, — сказала прадстаўніца сельсавета **Ларыса Пацейка.**

## Мозырский НПЗ — пока белорусский

***Мало кто обратил внимание на слова главы российской компании "Роснефть" Игоря Сечина, который воспротивился планам российского правительства сократить поставки в Беларусь сырой нефти. "Мне надо на Мозырский нефтеперерабатывающий завод, на свой актив, поставлять сырую нефть. Если они будут сокращать объемы поставки пропорционально, скажем, я больше всех пострадаю. Я поэтому жду объяснений", — сказал Игорь Сечин.***

***Я тоже хочу объяснений. Неужели Мозырский НПЗ уже тоже продали российским олигархам? Почему Сечин говорит про этот завод "мой актив"?***

**Виктор Рымарь, Минск.**

Как считает эксперт по отрасли химии и нефтехимии **Татьяна Маненок,** буквально заявление Игоря Сечина о Мозырском НПЗ как о "своем активе" воспринимать, конечно же, нельзя. Во всяком случае пока.

До недавнего времени доли в ОАО "Мозырский НПЗ" распределялись следующим образом: правительству Беларуси принадлежало 42,757% акций; 42,581% акций — компании "Славнефть", владельцами которой на паритетных началах являлись ТНК-ВР и "Газпром нефть"; доля ООО "МНПЗ плюс", которая представляет интересы работников предприятия, составляла 12,252% (доля государства в уставном капитале этого общества в 2006 году была увеличена до 98,4%, у прочих акционеров она составила 2,41%).

В 2013 году структура собственников ОАО "Мозырский НПЗ" формально изменилась. Это случилось после реализации в России крупнейшей сделки в нефтяной отрасли. Частная нефтекомпания ТНК-ВР перешла к государству — 100% ее акций консолидировала госкомпания "Роснефть". Таким образом, сейчас в структуре акционеров ОАО "Мозырский НПЗ" произошли небольшие изменения. Правительству Беларуси как принадлежало 42,757% акций, так и принадлежит, доля ООО "МНПЗ плюс" также осталась прежней — 12,252%, не изменилась и доля российской компании "Славнефть" — 42,581% акций. Правда, владельцами "Славнефти" на паритетных началах уже являются "Роснефть" и "Газпром нефть".

В российских СМИ уже появлялась информация о том, что "Роснефть" Игоря Сечина имеет виды на Мозырский НПЗ и хотела бы купить этот актив. Правда, пока не понятно — у кого: то ли белорусское государство намерено продать свой пакет, то ли российская "Газпром нефть", то ли мелкие акционеры, объединенные в ООО "МНПЗ-плюс".

Татьяна Маненок сомневается, что белорусское руководство созрело для продажи Мозырского НПЗ. Предприятие работает с прибылью и пополняет белорусский бюджет валютой, а потому нет необходимости передавать его в руки кого бы то ни было.

## З серады — чарговае пахаладанне

Пацяпленне ў нашай краіне аказалася кароткім. Ужо ў сярэдзіне наступнага тыдня прагназуецца пахаладанне. Паўночна-заходні халодны франтальны раздзел, які прынясе пахаладанне, падыдзе да беларускіх межаў у сераду, 16 кастрычніка. На большай частцы тэрыторыі Беларусі пачнуцца кароткачасовыя дажджы.

Адзначым, што ў пятніцу, 11 кастрычніка, у нашай краіне без істотных ападкаў, ноччу і раніцай на большай частцы тэрыторыі, а днём месцамі будуць туманы. Тэмпература паветра ў начныя гадзіны складзе 3—9 градусаў вышэй за нуль, у дзённыя — ад 10 да 16 цяпла.

У НУМАР!

## Нобелеўская прэмія па літаратуры — Эліс Мунро

Зразумела, што мы ўсім сэрцам і душой хацелі, каб прэстыжную прэмію атрымала наша зямлячка Святлана Алексіевіч. І Святлана Аляксандраўна да апошняга была ў ліку фаварытаў на атрыманне ўзнагароды. Прадстаўніца нашай краіны была блізкая да Нобелеўскай прэміі, як ніколі, але...

Будзем спадзявацца, што наступным разам — абавязкова.

А на гэты раз лаўрэатам Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры стала канадская пісьменніца Эліс Мунро. На жаль, нам яе творчасць амаль не вядомая, таму цяжка скласці сваё меркаванне, ці справядлівае рашэнне Нобелеўскага камітэта.

Святлана Алексіевіч упэўнена, што рашэнне справядлівае. "Гэта сумленная гульня і сумленны выбар. Тут няма нічога крыўднага. Я, на жаль, не чытала гэтую канадскую пісьменніцу, але я яе віншую і рада за яе", — сказала наша зямлячка.

Эліс Мунро лічыцца майстрам сучаснага апавядання. Яна аўтар больш як 15 кніг, апошняя з якіх — "Занадта шмат шчасця" — выйшла ў 2009 годзе. Гаворачы аб стылі пісьменніцы, многія літаратурныя крытыкі адзначаюць моцную рэгіянальную накіраванасць, якая з'яўляецца асаблівасцю яе кніг. Большая частка твораў Мунро ілюструе літаратурны жанр, вядомы як "готыка Паўднёвага Антарыя".

СІТУАЦЫЯ

## На авантуры грошай няма...

*Урад Беларусі скароціць бюджэтныя выдаткі з-за недапаступлення даходаў. Гэта навіна прагучала на нарадзе з удзелам кіраўніка краіны Аляксандра Лукашэнкі па пытаннях сацыяльна-эканамічнага развіцця.*

Старшыня Кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў **Аляксандр Ярашук** лічыць, што ў сённяшняй крытычнай сітуацыі скарачэнне бюджэту можа стаць тым трамплінам, які дасць штуршок развіццю айчыннай эканомікі, бо далей так жыць немагчыма.

— Мала хто ў краінах з развітай рыначнай эканомікай прыбягае да бюджэтнага фінансавання прадпрыемстваў, — гаворыць Ярашук. — Ну, можа, за выключэннем будаўніцтва нацыянальнага маштабу аўтадарог ці нейкіх падобных праектаў. Калі ж прадпрыемства не плаціць грошы ў бюджэт, то, натуральна, дзяржава не можа даць нармальную фінансавую абарону тым канкрэтным людзям, якія працуюць па-за сферай вытворчасці. Можна сабе ўявіць, што нас чакае наперадзе — цяжкія часы. Настаў час пераходзіць ад эканомікі абсурду, ад палітыкі эканамічнага авантурызму да жыцця па тых законах, па якіх жывуць эканомікі развітых краін. Трэба было даўным-даўно зрабіць цяжкія крокі адмаўлення ад датацый. Трэба было даць магчымасць прадпрыемствам самім зарабляць сабе на жыццё, самім знаходзіць інвестыцыі. Я не хачу стаць на пазіцыю дзяржаўных прафсаюзаў і абурацца тым, што вось бюджэт урэзалі і таму рабочыя церпяць ад гэтага. Але піраміду трэба паставіць аснаваннем уніз: прадпрыемствы павінны працаваць так, каб маглі адлічваць у бюджэт дастаткова сродкаў, а не за кошт бюджэту ўтрымліваць прамысловыя прадпрыемствы.

**— Але на нашых прадпрыемствах абсталяванне старое. Ёсць станкі 1960-х гадоў, а на некаторых нават пасляваенныя. Як ім цяпер у такіх умовах ажыццявіць нейкую мадэрнізацыю?**

— А ёсць нават даваенныя. Аднак рана ці позна авантурызм сканчваецца, і даводзіцца плаціць па рахунках. Але выбар быў зроблены 19 гадоў таму. Хацелі, каб сітуацыя была закансервавана? Хацелі захаваць "старое добрае мінулае"? Мы ў ім і апынуліся, а можам і далей заставацца. Вось цяпер і чуем ад кіраўніка дзяржавы, што самі вінаватыя і што за дэвальвацыю таксама самі адказныя. Справядлівасць наступіць, праўда, не заўсёды яна рана прыходзіць, але... І ўлады зараз павінны заплаціць па рахунках, і людзі цяпер павінны паглядзець, каму яны ў свой час паверылі і да чаго гэта іх прывяло.

**Любоў ЛУНЁВА.**

## На волю!

*Палітвязень Павел Севярынец выходзіць на волю 19 кастрычніка. Тэрмін знаходжання ў "калоніі-пасяленні", які ён адбывае ў вёсцы Куплін Пружанскага раёна, заканчваецца раніцай у наступную суботу.*

Палітык кажа, што не лічыць дні да вызвалення. Падчас зняволення ён імкнуўся не губляць часу.

"Для мяне кожная адсідка — гэта час духоўнага кшталтавання. Дзякуй Богу за ўсё! І за тое, што тут шмат цікавых людзей сустрэў і ўбачыў. У нататніку адных толькі пружанскіх тэлефонаў больш за 70. Лістоў 2,5 тысячы прыйшло. У "Нашу Ніву" напісаў больш за 80 эсэ. Таму тут, як кажуць, дзякуй Богу", — гаворыць Павел Севярынец.

Нагадаем, Павел Севярынец быў затрыманы 20 снежня 2010 года, пасля падзеі на плошчы Незалежнасці ў Мінску. 16 мая 2011 года яго асудзілі да трох гадоў абмежавання волі "за арганізацыю і падрыхтоўку дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак". Частку ад гэтага тэрміну Севярынец адседзеў у следчым ізалятары КДБ.



ТЭМА

## Смяротнае пакаранне: «за» і «супраць»



*10 кастрычніка адзначаўся Сусветны дзень барацьбы супраць смяротнага пакарання.*

Смяротнае пакаранне. Патрэбна яно ці не? Ці маем мы права забіраць жыццё ў чалавека, якое яму не давалі? Нават калі гэты чалавек — вырадак, на чыіх руках кроў другіх людзей. Грамадства ставіцца да гэтага па-рознаму.

Праз год пасля выбуху ў Мінскім метро, пасля таго, як тэрарыстаў расстралялі, я гутарыў з бацькам аднаго з загінуўшых. І парадокс: вядомы спартсмен **Васіль Капцюх,** які пахаваў сына Рамана, не хацеў, каб вінаватых пазбавілі жыцця!

*"Ніколі не быў прыхільнікам смяротнага пакарання*, — сказаў ён. — *Гэта занадта лёгка. Мне хацелася б, каб людзі, якія здзяйсняюць такія ўчынкі, усё жыццё з гэтым жылі. Такое пакаранне ў шмат разоў больш жорсткае, чым расстрэл. Але тэрарысты, забойцы з нічога не з'яўляюцца. Гэта недахоп выхавання ў грамадстве, і сёння мне шкада бацькоў Кавалёва і Канавалава (*менавіта гэтых людзей расстралялі за тэракт у метро. — **Аўт.)**. *Бо ўсе нараджаюцца аднолькавымі. А далей — вынік сацыяльнага выхавання, бяздушнасці грамадства".*

Апошні тыдзень беларускія праваабаронцы праводзілі мерапрыемствы па гэтай набалелай для нашага грамадства тэме. А мерапрыемстваў і на самай справе было шмат *(падрабязней можна пазнаёміцца на сайце* **spring96.org.** — Аўт.).

Напрыклад, 5 кастрычніка прайшла анлайн-прэзентацыя музычнага праекта "Апошні золак".

*"Мы зыходзілі з таго, што праект супраць смяротнага пакарання павінен быць на 100 працэнтаў жывым — па выкананні, па эмоцыях, па падыходзе*, — расказаў каардынатар праекта **Сяргей Будкін**. — *Не ставілі сваёй мэтай пераканаць, наша мэта — даць магчымасць задумацца. Злачынцаў неабходна караць, але нельга забіваць. Нават па законах".*

Спробай асэнсавання смяротнага пакарання ў сусветнай рок-культуры была і акцыя "Рок — за правы чалавека". Вядомыя беларускія творцы далучыліся да петыцыі супраць смяротнага пакарання, створаны новы відэафільм, прысвечаны гэтай тэме.

На жаль, па пытанні адмены смяротнага пакарання мы не бачым паўнавартаснай дыскусіі ні ў дзяржаўных СМІ, ні ў грамадстве, ні на ўзроўні грамадскіх арганізацый. Беларусь працягвае заставацца адзінай краінай у Еўропе, у якой выносяцца і прыводзяцца ў выкананне смяротныя прысуды.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

### З НАГОДЫ

**Андрэй ПАЛУДА, каардынатар кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання":**

— Нас радуе, што з 2009 года тэма смяротнага пакарання стала медыйнай. Але, вядома, хацелася б, каб пра яе ўзгадвалі не толькі напярэдадні Сусветнага дня супраць смяротнага пакарання — 10 кастрычніка, але і на працягу ўсяго года. Змяніць меркаванне людзей мы можам, толькі прадаставіўшы ім поўную інфармацыю і альтэрнатыву.

**Валянцін СТЭФАНОВІЧ, праваабаронца:**

— Сацыялагічная кампанія Satio правяла буйное даследаванне на тэму злачынства і пакарання ў Беларусі. Дык вось, 36,2% апытаных за тое, каб смяротнае пакаранне не адмянялі. 10 працэнтаў выказваюцца за пашырэнне прымянення гэтага віду пакарання, 16,6% лічаць, што вышэйшую меру трэба тэрмінова адмяніць, 12,4% рэспандэнтаў — за ўвядзенне мараторыя, а 15,5% лічаць, што трэба паступова ісці да адмены смяротнага пакарання. Адным словам, тых, хто за вышэйшую меру пакарання, і тых, хто супраць, прыкладна аднолькава. У асноўным за адмену смяротнага пакарання выступае моладзь. 73,5% апытаных баяцца судовых памылак і прытрымліваюцца пазіцыі *"горш асудзіць невінаватага, чым дазволіць вінаватаму пазбавіцца пакарання".* Акрамя таго, большасць лічыць пажыццёвае заключэнне адэкватнай альтэрнатывай смяротнаму пакаранню. Зрэшты, абсалютна відавочна, што адмена смяротнага пакарання — палітычнае пытанне, і прымацца яно будзе на палітычным узроўні. Хоць праваабаронцы лічаць, што працу з людзьмі на гэтую тэму трэба працягваць.

**— Адным словам, грамадства падзялілася...**

— Так, бо пытанне далікатнае, з яркай эмацыйнай афарбоўкай. Днямі адбыўся "круглы стол" з удзелам прадстаўнікоў МУС, дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, юрыстаў... І вось яны адкрытым тэкстам казалі: *"Смяротнае пакаранне на самай справе не з'яўляецца стрымліваючым фактарам росту злачыннасці"*. Але людзі, якія выступаюць за вышэйшую меру, называюць адзін аргумент — пачуццё ўласнай бяспекі. Яны лічаць, што смяротнае пакаранне будзе стрымліваць рост цяжкіх злачынстваў. Вялікая памылка. Больш таго, адсутнасць гуманізму ў дзяржаве пераходзіць і на людзей, на грамадства. Яно робіцца яшчэ больш жорсткім.

**— Чаму не вядзецца з гэтай нагоды шырокая дыскусія?**

— Можа быць, таму, што дзяржава ўзнімае гэтае пытанне ў залежнасці ад палітычнай кан'юнктуры. Дарэчы, толькі 6 працэнтаў апытаных лічаць, што ім дастаткова інфармацыі на гэтую тэму.

**— Многія чыноўнікі кажуць, што беларускае грамадства яшчэ не саспела да адмены смяротнага пакарання...**

— Ведаеце, вельмі цяжка чакаць ад грамадства, што яно наогул да гэтага саспее. Паўтаруся, пытанне — вельмі эмацыйна афарбаванае. Забілі блізкага — чалавек патрабуе помсты. І, калі кіравацца гэтым, то давайце тады на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску адсякаць забойцам галаву. У Заходняй Еўропе, калі ў свой час адмянялі смяротнае пакаранне, не праводзілі на гэтую тэму рэферэндумаў. Адказнасць на сябе за такія крокі бралі палітычныя эліты. Таму і ў нас рашэнне павінна прыняць дзяржава. Хоць і непапулярнае рашэнне.

ДИСКУССИЯ

# Зачем США изучают коррупцию в Беларуси?

*В “Советской Белоруссии” 24 августа с.г. помещена обширная статья “Как укротить вирус коррупции” Леонида Мальцева, госсекретаря Совета безопасности Республики Беларусь. В качестве методологической указки автор избрал высказывания Александра Лукашенко. Оно понятно, но столь частое цитирование пусть даже абсолютно верных заключений главы государства невольно заставляет вспомнить застойную брежневскую эпоху...*



Цитата из Мальцева: *“Доклад Госдепа США о соблюдении прав человека, публикуемый ежегодно, в том числе и в текущем году, во многом посвящен, как ни покажется странным, анализу коррупции в Беларуси. Казалось бы, какое дело американцам до нашей коррупции, тем более что уровень преступности в стране достаточно низкий? Речь идет о том, что противоборство в сфере смыслов никогда не прекращалось и не прекращается. В мире есть достаточные силы, которые бы хотели создать в лице Беларуси образ криминального государства, а значит, и условия, позволяющие легимитизировать антибелорусские санкции, политико-дипломатическое и иное давление...”*

Фу-ты, ну-ты! Однако наберемся терпения. Мы ведем заочный диалог не с каким-нибудь горе-обозревателем со строенной фамилией Гигин-Михальченко-Мусиенко, а с генерал-полковником, занимающим важный государственный пост.

Какое дело американцам до нашей коррупции.? Прямое, Леонид Семенович, прямое. На то он и Госдеп, то есть министерство иностранных дел. Тем более что мы сами себя позиционируем как “центр Европы”. Есть, правда, более серьезные основания для подобного интереса. Не мне говорить Л.Мальцеву о величине вклада Беларуси в военно-промышленный комплекс Российской Федерации. Скажем только, что вклад значителен, особенно если рассматривать его через призму ВВП и количество населения наших стран. Получается, что от морально-психологического климата в нашей стране во многом зависит боеготовность российской армии, которая, как планируется, перейдет на новое вооружение (70%) лишь в 2020 году. За это время могут произойти разные события. Например, падение цен на нефть. 80% российского экспорта (следовательно, и выручки) — энергоресурсы. Плюс прорывы исламистов во главе с талибами в направлении Кыргызстана и Таджикистана с неизбежным распространением героина по демпинговым ценам. В России сейчас, по официальным данным, 8,2 миллиона человек в той или иной степени наркозависимы. Медики давно подсчитали: один миллион наркоманов дает около 700 тысяч ВИЧ-инфицированных. Опасность черного сценария хорошо понимают в России и Китае, который имеет свой проблемный Уйгурский район, 30 миллионов жителей которого исповедуют в основном ислам и где сильны сепаратистские настроения.

В середине прошедшего августа под Челябинском закончились совместные российско-китайские учения. Небольшие по количеству, но исключительно важные по своей направленности. Согласно китайскому официальному радио, отрабатывался разгром формирований, вторгшихся с территории государства А. Конечно, А — это не Австралия и тем более не Андорра. Это — Афганистан. Так почему американцам не изучать коррупцию в Беларуси? Коррупция напрямую связана с боеготовностью страны. Беларусь — военная союзница России. В случае крупного межрегионального конфликта в Средней Азии хочешь не хочешь, а придется принять участие. И не символическое. Номер с непризнанием Абхазии и Южной Осетии тут не прокатит.

Доскональное изучение национальных элит, проверка их на коррупционную вшивость, — обязательный компонент при планировании и проведении всех современных информационно-ударных операций. Если верховная власть сильно коррумпирована, а страна еле концы с концами сводит, то, обрушив на население лавину правдивой (!) информации (дворцы, зарубежные счета, семейственность, расправа с оппонентами) и приплюсовав к этому искусно разогретые этно-религиозные конфликты, можно любой режим с лица земли снести. Что в Ираке, что в Ливии, что в Египте...

Немецкие ученые, изучая психологию предательства, в том числе измену родине, пришли к выводу, что основным мотивом является корыстолюбие. Такого же взгляда придерживается и секретарь Совбеза Л.Мальцев: “Экономические преступления, коррупционные деяния совершают только люди с низкими нравственными качествами”.

Ребром встает вопрос: как эти отступники попадают у нас на ответственные должности? В стране около десяти спецслужб. Ладно, внешнюю разведку после развала СССР трудно восстановить, тут все понятно. Но при назначении чиновников на ключевые должности — от райцентра до столицы — спецслужбы, в первую очередь КГБ, информационно-аналитическое сопровождение должны были наладить. 22 года как самостоятельны. Блеснули на руке Мясниковича часики за 37 тысяч долларов (сколько дней и ночей понадобилось Михаилу Васильевичу, чтобы не пить, не есть и сами знаете, чего не делать, чтобы обзавестись статусной цацкой?) и тут же —тук-тук в налоговую инспекцию, Совбез, лично Лукашенко.

## Бьют по хвостам

Дополнительная информация. Нижняя подсветка коррупции. На Витебщине милиция провела дорожный эксперимент. На обочину положили муляж истекающего кровью человека. Из 24 машин остановились 4. Мало того, что остальные 20 не остановились, так ни одного звонка в “скорую помощь” и в ту же милицию не было сделано! Вот он, крах “белорусской модели”, полный и безоговорочный. Массово оскотинились? Нет, делать такой суровый вывод мы не вправе. Произошло массовое отчуждение людей от власти. Официальные данные МВД Беларуси за январь с.г.: полностью органам правопорядка доверяет менее трети населения.

Гражданское общество задушено. Авторитарный стиль правления, затянувшийся на десятилетия, плодит людей с кастрированной совестью в режиме нон-стоп. Днем и ночью. Общественное равнодушие — повивальная бабка коррупции.

Возвращаемся к Мясниковичу. Прежде чем занять пост премьера, он руководил Национальной академией наук. Дал согласие на объединение институтов языка и литературы. Якобы из соображений экономии. Даже во время войны до этого не додумались. Ничего подобного не сделано в России, в Украине. Там у государственных деятелей хватило внутренней самодостаточности и ответственности перед будущим. Нельзя же пилить сук, на котором сидишь. Философия прямой кишки до добра не доведет.

При Мясниковиче, несмотря на усилия общественности, не была доведена до логического конца постыдная история с директором одного из гуманитарных институтов (фамилию не называю по этическим соображениям — человек этот сейчас болен), допустившим откровенный плагиат при написании докторской диссертации. Умыли тогда руки вслед за академией Госконтроль, Высшая аттестационная комиссия... Ограничились отписками. Разве здесь нет тихой коррупционной составляющей? При Мясниковиче беспрепятственно укатили за рубеж два члена президиума академии, публично обвиненные коллегами в финансовых махинациях. Будь спецслужбы на высоте, не видать Михаилу Васильевичу нынешнего кресла. Увы!

Чаще бьют по хвостам. И госсекретарь Совбеза Леонид Мальцев, надо отдать ему должное, признает это: *“...самоуспокоенность и инертность ряда начальников подразделений правоохранительных и контролирующих органов... работа уполномоченных государственных органов зачастую носит бессистемный характер и ограничивается выявлением малозначительных преступлений...”* Далее — статистика: *“За три года количество выявленных коррупционных преступлений в стране сократилось на 30,4 процента...”* Но вот незадача: *“На совещании* (имеется в виду совещание у президента. — **В.Д.**) *приводился пример: в абсолютных цифрах размер ущерба, причиненного совершением экономических преступлений, в 2012 году увеличился относительно 2010 года на 8,6 процента (с 99,2 до 107,7 млрд рублей)”.*

Все ясно: количество коррупционных преступлений снизилось, а ущерб вырос. Потому что берут на лапы по-крупному. В первую очередь высокие чины. За последние годы, благодаря профессиональной выучке и честности отдельных следователей и прокуроров, чего, к сожалению, не скажешь о всей правоохранительной системе, были привлечены к уголовной ответственности (вдумайтесь только!) директор Национальной телерадиокомпании Е.Рыбаков, заместитель начальника главного идеологического управления Администрации президента В.Холод, управляющая делами Администрации президента Г.Журавкова, мэр Гомеля В.Пилипец, первый заместитель председателя Минского горисполкома И.Васильев, начальник секретариата Совета Республики Г.Бедрицкий, председатель Белкопсоюза С.Сидько и многие, многие другие взяточники, пробравшиеся к власти.

***Вместо резюме.*** *Позорный список был бы на порядок короче, если бы в стране существовали политическая конкуренция, сменяемость власти и, как следствие, продуманная кадровая политика. Вирус коррупции не укрощать надо, а создавать атмосферу, в которой он сдыхает, едва появившись на свет. Вы строите казино и хотите, чтобы не было игроманов, наркоманов и прочих потенциальных преступников? Вы разрешаете устраивать конкурсы, где молодых женщин заставляют обнажать грудь и пересекать подиум на четвереньках и хотите после этого бороться с безнравственностью и проституцией в частности?*

*В своей статье госсекретарь Совбеза Л.Мальцев кое-какие острые углы обошел. Но сказанного вполне достаточно, чтобы понять, насколько опасна, смертельно опасна коррупция для Беларуси.*

**Вячеслав ДАШКЕВИЧ.**

ЧУЛІ?

## Усе буйныя банкі спынілі выдачу крэдытаў на пакупку жылля

*Услед за “Беларусбанкам” і “Белінвестбанкам” крэдыты на пакупку жылля перастаў выдаваць і “Белаграпрамбанк”, які заставаўся апошнім з тройкі найбуйнейшых беларускіх банкаў, дзе можна было іх атрымаць.*

Зараз атрымаць крэдыт на набыццё жылля можна толькі ў “Парытэтбанку”, аднак па вельмі высокай стаўцы — пад 50%.

Як растлумачылі ў “Беларусбанку”, рашэнне больш не выдаваць крэдыты на набыццё жылля звязана з тым, што банку неабходна ў першую чаргу накіроўваць грашовыя сродкі на рэалізацыю дзяржаўнай праграмы жыллёвага будаўніцтва.

ФАКТ І КАМЕНТАРЫЙ

# Чарговы «фінт» улады

*“Мы зараз думаем, як падтрымаць жанчын. Сем’і як падтрымаць... Вось праект “Вялікая сям’я” мне прапанавалі. За першае дзіця — дзесяць тысяч долараў. За другога — дваццаць. За трэцяга — у два разы павялічваем. А калі яшчэ ты сам на гэты рахунак грошы кладзеш, то мы ў два разы больш даем”, — сказаў А.Лукашэнка падчас наведвання завода “БелАЗ” у Жодзіне.*

*Вось дык дзіва! Калі праект, які прапануецца, стане рэальным, то гэта будзе сведчыць пра тое, што грошы ў дзяржавы ёсць. Хоць іншыя факты не даюць падставы для аптымізму. Дапамога па доглядзе за дзіцем пакуль чамусьці ніяк не дацягвае да двух бюджэтаў пражытачнага мінімуму. Хаця ўсе пагаджаюцца, што маці і дзіця — гэта ўсё ж такі два чалавекі, а не адзін. Апазіцыйных палітыкаў, якія заклікалі дзяржаву вырашаць дэмаграфічныя праблемы ў тым ліку і праз стварэнне так званых “мацярынскіх фондаў”, называлі папулістамі.*

## Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, былы кандыдат на пасаду прэзідэнта:

— Самая істотная праблема, якая існуе сёння ў Беларусі, гэта праблема дэмаграфічная. Калі не будзе беларусаў, дык не мае значэння, што мы тут займеем заўтра ці ў далёкай перспектыве — дыктатуру, ці дэмакратыю, ці царства нябеснае, ці пекла. З разуменнем гэтага мы падчас прэзідэнцкай кампаніі 2010 года казалі, што абсалютна неабходна стварыць “мацярынскі капітал”, каб сем’і заводзілі дзяцей. Мы, праўда, казалі, адкуль возьмецца гэты капітал.

Тады мы казалі пра “мацярынскі капітал” на дзіця — 25 тысяч долараў, але мы бачылі, што цяпер гэтых грошай няма, і тлумачылі, адкуль іх узяць. Гэтыя грошы можна здабыць, толькі рэфармаваўшы эканоміку. Мы распавядалі, што трэба рабіць у першую чаргу, што далей, крок за крокам.

Што тычыцца Аляксандра Лукашэнкі, то я не разумею, адкуль ён на сённяшні дзень збіраецца гэтыя грошы займець. Эканоміка абсалютна не рэфармуецца, склады перапоўнены прадукцыяй. Хоць ён і кажа, што мы жывём з рэальнага сектара эканомікі, гэта не так — мы жывём з расійскіх прэферэнцый, з датацый па нафце і газе, і ў любы час пры змене палітычнага ветру гэтыя датацыі могуць скончыцца. Таму я лічу, што ягоныя абяцанкі — гэта піяр, пачатак выбарчай кампаніі, і не больш за тое.

### ТЫМ ЧАСАМ

Эксперты ўжо падлічылі, што для выканання абяцання кіраўніка дзяржавы неабходна больш за 2 мільярды долараў у год. Ясна, што такіх грошай краіна не мае. Праўда, калі не даваць іх на рукі, а толькі зафіксаваць на паперы з абяцаннем, што, калі дзеці вырастуць, праз 18 гадоў новая ўлада гэтыя грошы верне, то такі “фінт” правярнуць можна.

**Алена НОВІКАВА.**

УЗНАГАРОДА

## Прэмію Еўрапарламента імя Сахарава атрымала Малала Юсуфзай

Сёлетнюю прэмію Еўрапарламента імя Андрэя Сахарава атрымала Малала Юсуфзай з Пакістана.

Малала Юсуфзай стала сімвалам змагання за роўныя правы дзяўчынак на адукацыю ў грамадствах, у якіх традыцыя вызначае жанчыне другарадную ролю ў публічным жыцці.

Малала Юсуфзай з 11 гадоў вяла блог для брытанскай медыйнай карпарацыі Бі-Бі-Сі, распавядаючы аб становішчы яе аднагодкаў і іх бацькоў, якія жывуць у пакістанскім рэгіёне Сват. У 2012 годзе па Малале, якая вярталася са школы, стралялі талібы і сур’ёзна яе паранілі. Жыццё дзяўчынцы ўратавалі дактары ў Вялікабрытаніі.

У шорт-ліст прэміі імя Сахарава, якую прызнае Еўрапарламент, сёлета трапілі і беларускія палітвязні: Алесь Бяляцкі, Эдуард Лобаў і Мікола Статкевіч.

Прэмія імя Сахарава, заснаваная ў 1998 годзе, мае грашовую вартасць 50 тысяч еўра і з’яўляецца галоўнай узнагародай ЕС у галіне правоў чалавека. У гэтым годзе да апошняга ў спісе магчымых лаўрэатаў заставаліся трое беларускіх палітзняволеных — Мікола Статкевіч, Алесь Бяляцкі і Эдуард Лобаў.

КАРУПЦЫЯ

## Як пчолы на мёд

### Садзяць іх садзяць, а тых, хто працуе за хабар, меней не робіцца.

На гэтым тыдні ў працоўным кабінеце быў затрыманы намеснік старшыні канцэрна “Белнафтахім” **Уладзімір Волкаў**. У канцэрне ён курыраваў нафтаперапрацоўчую прамысловасць, а таксама пытанні экспарту і імпарту нафтапрадуктаў.

Следчы камітэт сцвярджае, што чыноўніка злавілі на гарачым — адразу пасля атрымання ім часткі хабару. А ўся схема працавала, па папярэдніх звестках, у перыяд з лютага па кастрычнік 2013 года. Чыноўніка абвінавачваюць у атрыманні 19 тысяч долараў.

Літаральна праз дзень прыйшла яшчэ адна навіна — пра тое, што пры атрыманні хабару папаўся кіраўнік буйной будаўнічай фірмы “МаналітГрад”.

Як паведамляе “Интерфакс-Запад”, падазроны спрабаваў атрымаць ад прадстаўніка камерцыйнай арганізацыі 125 мільёнаў рублёў “за своечасовасць плацяжоў па выніках выканання субпадрадных работ” у доме, які будуецца ў пасёлку Юбілейны ў Мінскім раёне. У момант затрымання гендырэктару перадавалі 95 мільёнаў рублёў.

Дарэчы, як інфармуе МУС, праваахоўныя органы правяралі факты злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, вымагальніцтва і хабарніцтва з боку кіраўніцтва “МаналітГрад” на працягу апошніх трох гадоў.

Адзначым, што акцыі ААТ “МаналітГрад” належаць Міністэрству архітэктуры і будаўніцтва.

ГРОМКОЕ ДЕЛО

## Против высокопоставленных сотрудников «Белшины» возбудили дело

Некоторые руководители бобруйского завода и связанные с ними бизнесмены, по версии следствия, похитили почти 1 миллиард рублей.

Оперативники Министерства внутренних дел Беларуси передали в Следственный комитет материалы о действиях нескольких ответственных работников завода “Белшина” в Бобруйске и бизнесменов, которые сотрудничали с ними. Сейчас все материалы следователи объединили в два уголовных дела, сообщили в Следственном комитете Беларуси “Ежедневнику”. Одно дело ведет Бобруйский отдел Следственного комитета, а второе — Центральный аппарат.

Главные подозреваемые — начальник бюро обеспечения металлом ОАО “Белшина” и бывший заместитель начальника отдела материально-технического снабжения ОАО “Белшина”. Первого с подельниками следователи подозревают в махинациях с металлоломом на сумму в 465 миллионов рублей в 2012 году. Второго, также с подельниками (предположительно — официальные российские партнеры завода), — в хищении материалов на сумму в 514 миллионов рублей.

В последнее время (2012-й и 2013 годы) милиция и Следственный комитет Беларуси уделяют особое внимание концерну “Белнефтехим” и его предприятиям — заведены уголовные дела в отношении чиновников завода “Полимир”, ОАО “Нафтан”, филиала “Белшина-Агро” ОАО “Белшина”, а теперь и самого завода “Белшина”.

НУ І НУ!

## У калодзеж па... тэлефон

*Вясковец так хацеў дастаць свой мабільны з калодзежа, што сам упаў следам.*

Здарэнне адбылося ў вёсцы Раманавічы Гомельскага раёна. 53-гадовы мужчына выпадкова выпусціў свой мабільны тэлефон у калодзеж. Спробы самастойна дастаць апарат з вузкай гарлавіны глыбінёй 15—20 метраў былі не лепшай задумкай. У рэшце рэшт выратавальнікам прыйшлося даставаць з калодзежа самога ўладальніка тэлефона. Траўмаў і пашкоджанняў мужчына не атрымаў. Праўда, і тэлефон не знайшоў...

ПРОЕКТ

# Готовы ли таксисты пересаживаться на Geely?

*Как известно, готовится новый проект указа президента, касающийся организации перевозок пассажиров такси. Главными нововведениями, как ожидается, станут: ограничение срока эксплуатации автомобилей — машина должна быть не старше 8 лет, а также установление определенных габаритов транспортного средства — длина 4,4 м и более, ширина 1,7 м. Случайность это или нет, но по всем новым пунктам в качестве идеального автомобиля для таксистов подходит китайско-белорусская “Geely”. И, естественно, сразу пошел слух, что белорусских таксистов заставят пересесть именно на эти машины.*

*Узнать, что думают столичные таксисты по поводу нововведений, “Народная Воля” решила, просто прокатившись с ними по городу.*

**Геннадий Анатольевич ЯКОВЛЕВ:**

— Я считаю, что это будет хороший указ. У нас европейское государство, такая красивая столица, красивые улицы, вот и машины, которые по ним ездят, должны быть такими же красивыми. Обновить машину не так сложно сегодня. Я, например, пять дней назад купил в салоне “Geely” и не жалуюсь. На вид неплохая, да и цена не кусается — всего 13.000 у.е. отдал.

**Сергей:**

— Я двояко отношусь к этому нововведению. С одной стороны — правильно: менять старые машины нужно. Но, с другой стороны, есть же большое количество автомобилей бизнес-класса, которые и в 10 лет по своему состоянию будут лучше, чем некоторые новые. У меня, например, “Samand” 2007 года — это иранско-белорусский автомобиль. Он и по габаритам подходит, и по возрасту. Но я все равно буду менять эту машину на что-то другое, но точно не на “Geely”. Зачем мне еще одна такая же “хорошая” машина, как у меня сейчас есть?!

**Андрей:**

— Менять машины, конечно, нужно, но не так быстро. По-моему, ничего из этой идеи не выйдет и никаких новых правил не введут. Ведь при таких условиях люди просто не успеют сменить авто, работать будет некому и такси просто не станет. Лично мне, например, придется приостановить деятельность. Подожду, посмотрю, что будет: может, после чемпионата мира по хоккею все успокоится.

**Валерий:**

— Обновлять таксопарк нужно однозначно, но при тех условиях, которые нам предлагают, — это нереально. Не у каждого таксиста сейчас есть 15.000—20.000 долларов, чтобы купить новую машину. Можно, конечно взять кредит, но в таком случае ты будешь работать только на то, чтобы его выплатить. Плюс ко всему не забывайте, что автомобили нуждаются в постоянном уходе, а это тоже немаленькие деньги. Хватит ли денег на жизнь — не известно. Если нововведения будут такими, как о них сейчас говорят, то многие таксисты просто останутся без работы.

**Андрей:**

— К этой идее я отношусь очень плохо. Много хороших машин просто не подойдет под эту “восьмилетку”. Как альтернативу нам предлагают “Geely”. Она и по габаритам проходит, и по возрасту, да и по цене. Но как эта машина будет себя вести через пару лет работы в качестве такси, никто не знает. Она еще не прошла проверку ни нашей дождливой осенью, ни нашими суровыми зимами. Поэтому продавать свою хорошую машину и покупать “непонятно что” лично я точно не собираюсь. Моя машина по габаритам проходит, но по годам нет. Поэтому если такой указ и вступит в силу, я, как и многие другие таксисты, скорее всего, просто уйду с этой работы. Напишите, чтобы не вводили “восьмилетку”. Можно же решить вопрос качества автомобиля другими способами, например, ужесточить техосмотр.

**Владимир Аркадьевич ЩЕННИКОВ:**

— Я согласен с нововведениями. Все машины такси должны быть одинаковые, новые и красивые. Я работаю в государственном таксопарке и, естественно, развожу клиентов не на своем личном авто. Вот таксопарк пусть и закупает новые машины, а мы будем на них работать. Я думаю, что президент постарается дать такую возможность. Ведь скоро хоккейный чемпионат, много туристов приедет, вот они-то и будут ездить на новеньких машинах. В первую очередь нужно заботиться о безопасности пассажира, а новая машина, само собой, надежнее.

**Марта МАХУН.**



